Зое
10907

КУЛЬТПРОП ЦК КП(б)Б
ПРАГРАМНА-МЭТАДЫЧНАЕ БЮРО

# МЭТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ
## ДЛЯ ПАРТАСЬВЕТЫ і ДАКЛАДЧЫКАЎ

№ 19 — КАСТРЫЧНІК 1931 г. — № 19

ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ДОМУ КАМАСЬВЕТЫ — МЕНСК

## Ход выкананьня народна-гаспадарчага пляну 3-га рашаючага году пяцігодкі і задачы 4-га кварталу

*Мэтавая устаноўка.*

На аснове дасягнутых у выкананьні пляну 1931 г. вялізарных перамог, якія паказваюць правільнасьць генэральнай лініі партыі рэальнасьць нашых плянаў растлумачыць:

1. а) што адзінай прычынай працягваючагася па раду галін адставаньня ад плянавых заданьняў зьяўляецца адсутнасьць яшчэ сапраўднай перабудовы работы і кіраўніцтва ў адпаведнасьці з новай гаспадарча палітычнай абстаноўкай ў краіне.

   б) Што толькі неадкладная рэалізацыя 6-ці ўмоў тав. Сталіна забясьпечыць далейшы уздым большавіцкіх тэмпаў разгорнутага наступленьня па ўсяму фронту.

2. „IV-ты кв. рашае лес 3-га году пяцігодкі"

Уявіць, што пасьпяховае выкананьне пляну 4-га кв. зьяўляецца неабходнай умовай далейшага ўздыму большавіцкіх тэмпаў, намечаных плянам 1932 г.—заключнага году пяцігодкі, мабілізаваць слухачоў на ўдарнае ажыцьцяўленьне пляну IV кварталу.

3. Выкрыць буржуазные тэндэнцыі, якія праяўляюцца ў раду гаспадарчых організацый у разуменьні і прыктычным ажыцьцяўленьні вузлавых гаспадарчых задач (нарыхтоўкі, таваразварот, гаспадарчы разрахунак) і мабілізаваць слухачоў на яшчэ больш рашучую барацьбу з правымі і „левымі" апартуністымі і партыйнымі абывацелямі, якія перашкаджаюць пасьпяховаму выкананьню большавіцкага пляну.

Бібліятэка імя Леніна

## Плян прапрацоўкі.

1. 3-ці годпяцігодкі—год гістарычных перамог рабочай клясы нашай краіны і буйнешых зрухаў у соцыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

2. Вынікі работы прамысловасьці, будаўніцтва і транспарту за першыя 3 кв. 1931 г. і прычыны адставаньня ад пляну па раду важнейшых галін.

3. Плян 4-га кв.—баявая праграма ліквідацыі прарываў і адставаньня ва ўсіх важнейшых вучастках соцыялістычнага будаўніцтва і пасьпяховага сканчэньня праграмы 3-га рашаючага году пяцігодкі.

4. Вузлавыя гаспадарчыя задачы бліжэйшага часу і барацьба з буржуазнымі тэндэнцыямі і апартуністычнай практыкай у іх ажыцьцяўленьні.

## Мэтадычныя заўвагі:

Гутарку патрэбна пачаць з характарыстыкі гістарычных перамог і буйнейшых зрухаў у соцыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, дасягнутых у 3-м рашаючым годзе пяцігодкі. У галіне сельскай гаспадаркі народна-гаспадарчы плян 1931 г. пасьпяхова выконваецца ў ва ўсіх асноўных разьдзелах. Пасьпяхова выкананы і перавыкананы тэмпы калектывізацыі, устаноўленыя рашэньнем ЦК УсеКП(б) і XVI-м зьездам. Закончана ў асноўным калектывізацыя ў радзе буйнейшых збожжавых раёнах; у большасьці з іх калектывізавана да 85—90 проц. гаспадарак і 90-95 проц. пасеўных плошчаў. Усяго па СССР калектывізавана звыш 60 проц бядняцкасераднядкх (гаспадарак, па БССР звыш 50 проц. Соцыялістычны сэктар атрымаў перавагу над індывідуальным. Значна ўзраслаі тэхнічнае ўзбраеньне сельскай гаспадаркі. У строй уступілі новыя сотні МТС па БССР лік МТС узрос з 6 да 33. Гэтыя вялізарныя зрухі знайшлі свой адбітак у больш шпаркіх, чым у мінулым годзе тэмпах правядзеньня усіх сельска-гаспадарчых кампаній.

Падкрэсьліць, што гэтых посьпехаў ў галіне сельскайг аспадаркі мы змаглі дабіцца толькі на аснове пераможнага правядзеньня соцыялістычнай індустрыялізацыі. Рад важнейшых галін прамысловасьці і асобных прадпрыемств выканалі ўжо і перавыканалі ў гэтым годзе пяцігодку. У жорсткай барацьбе з нашай тэхнічнай адсталасьцю мы дабіліся бліскучых посьпехаў у аўладаньні новай вытворчасьцю (блюменгі, магутныя турбіны і г. д.). Праведзена ўшо карэнная рэканструкцыя раду галін прамысловасьці, асабліва характаэрна ў гэтым напрамку сельгаспадарчае машына-будаўніцтва, якое смогло ў кароткі тэрмін правесьці буйнейшую перабудову ад вытворчасьці інвентару, разьлічанага на

раздробленую сялянскую гаспадарку да выпуску складаных машын, разьлічных на буйную соцыялістычную гаспадарку (трактар, камбайны, ільноцерабілкі, трактарныя плугі, дыскавыя бороны, хлопка-уборачныя машыны, бульба-капацелі, бурако-уборачныя агрэгаты і г. д.); каля 1/3 прадукцыі заводаў сельска-гаспадарча машына-будаўніцтва выпадае ў гэтым годзе на новыя машыны, якія ўпершыню выпрабляюцца ў СССР.

Пушчаны ў эксплёатацыю сотні новых прадпрыемстваў. За адно першае паўгодзьдзе г/г пушчана каля 200 прадпрыемстваў з асноўным капіталам звыш 1 млрд. руб. у 3-м кв- уступілі ў, строй волаты ХТЗ і „Новы АМО". Напярэдадні пуску—гіганты Кузьнецкі, Магнітабуд, Н-Гародскі аўтазавод, Беразьнякоўскі Хэмкамбінат і інш.

З ростам асноўных фондаў расьце і валавая прадуцыя прамысловасьці. За 8 месяцаў 1931 г. прырост валавой прадукцыі супроць адпаведнага пэрыяду мінулага году складае: па нафце 26 проц. па чыгуну—66, па машына-будаўніцтве—40 проц. Значна пасунулася на перад легкая прамысловасьць, якая за 8 месяцаў дала прырост (супроць адпаведнага пэрыяду мінулага году) па валавой прадукцыі: прамысловасьць ВСНГ—80 проц. прамысловасьць НКСнаба— 33 проц.

Той-жа малюнак мы маем і па БССР. Мэталяапрацоўчая прамысловасьць дала валавай прадукцыі за 9 месяцаў 1931 г. на 28,6 млн. руб. супроць 20,9 млн. за тый-жа месяц 1930 г., с/г машына-будаўніцтва—на 8,4 млн. руб., супроць 4,2 млн. руб. Уся прамысловасьць ВСНГБ дала прырост валавой прадукцыі за 9 месяцаў (супроць 1930 г.) на 43,7 проц. (у тым ліку група „А" 32,8 проц., і група „В"—48,9 проц.), прамысловасьць НК Снабу—58,5, проц.

Накіраваць увагу слухачоў на тое, што на аснове ахарактарызаваных дасягненьняў мы дабіліся таксама значнага зруху ў паляпшэньні матар'яльна-бытавых умоў і культурнага абслугоўваньня рабочай клясы. На гэтым вучастку мы дабіліся ўжо рашаючага зруху. Беспрацоўе ліквідавана на заўсёды. Бюджэт рабочай сям'і ў нас ужо вышэй, чым у капіталістычных краінах. Па ўсяму Саюзу ўжо скончана ў гэтым годзе ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня. Па БССР мы прыступілі ўжо да ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня на базе 7-мі годкі і ўсеагульнага дашкольнага выхаваньня. Маецца значнае паляпшэньне ў справе забесьпячэньня рабочых.

На аснове ўсяго паказанага прывесьці слухачоў да вываду, што ўсе гэтыя буйныя перамогі зьяўляюцца лепшымі паказальнікамі правільнасьці генэральнай лініі нашай партыі.

Пераходзячы далей да характарыстыкі адмоўных зьявішчаў у выкананьні народна-гаспадарчага пляну 1931 г. кіраўнік павінен перш за ўсё падкрэсьліць, што ня гледзячы на дасягнутыя намі ў гэтым годзе посьпехі, выкананьне плянаў за першыя 3 кварталы па раду галін прамысловасьці, будаўніцтву і транспарту ня можа нас здаволіць. Рад галін і прадпрыемстваў значна адстаюць ад плянавых заданьняў: Уся прамысловасьць, пляніруемая ВСНГ СССР выканала плян за 8 месяцаў усяго на 79 проц. (у тым ліку група „А" на 72 проц., група „Б"—на 91 проц.). Прамысловасьць ВСНГБ за 9 месяцаў выканала плян на 86,2 проц. (група „А" на 73,2 проц., група „Б"—на 93,1 проц.). Прамысловасьць НКСнабу БССР—на 74,2 проц.

Асабліва глыбокія прарывы ў выкананьні пляну 1931 году па такім важнейшым для ўсёй гаспадаркі СССР галінам, як паліўная (па вуглю за 8 месяцаў плян выканан на 62,5 проц., недадана 20,8 млн. вуглю; па торпу плян выканан на 70 проц.). мэталь (па чыгуну плян выканан на 68 проц., па сталі—на 61 проц.,; практу на 59 проц., машына-брдаўніцтву—70 і буд-матар'ялу (цагельная прамысловасьць выканала плян па сырцу на 61 проц. і абжыгу на 68 проц.). Такое жа становішча і па БССР. Мэталаапрацоўчая прамысловасьць за 9 м-цаў выканала плян на 69 проц. (не дададзена краіне 2.235 саломарэзак, 3.313 корнерэзак, 572 растворамешалак, 816 сілорэзак і г. д. Цагельная прамысловасьць—36,8 проц. (па сырцы нават толькі 26,8 проц.). Па торпу праграма выканана на 50,9 проц., па хэмічнай прамысловасьці на 54 проц.; па шклянай—69 проц., па дрэваапрацоўчай на 67,4 проц.

Значныя прарывы адзначаюцца і па лініі будаўніцтва (гадавы плян за 8 месяцаў па СССР выканан у разьмеры: прамысловае будаўніцтва на 43—45 проц., электрабудаўніцтва каля 34 проц., транспартнае будаўніцтва на 39—40 проц., сельска-гаспадарчае будаўніцтва на 30—35 проц.) і па лініі транспарту: транспарт не дадае штодзённа краіне 10 тыс. вагонаў мэталю, вуглю, хлеба і буд-матар'ялаў. Работа транспарту паказаўшая ў 2-м квартале ў выніку правядзеньня партыяй і ўрадам захадаў паляпшэньня ў параўнаньні з першым кв. у 3-м кв. зноў пагоршылася дзякуючы апартуністычнаму кіраўніцтву НКПС і паслабленьню ўвагі з боку партыйных транспартных арганізацый і гэта мела свой адбітак і па радзе галін прамысловасьці і будаўніцтва.

Далей кіраўнік пераходзіць да высьвятленьня прычын прарываў і адставаньня. Падкрэсьліць, што гэтыя прычыны з вычэрпальнай яскравасьцю ўказаны таварышом Сталіным. Патрэбна

накіраваць увргу слухачоў на тое, што побач з галінамі і прадпрыемствамі, адстаючымі ў выкананьні пляну, рад галін прадпрыемстваў пасьпяхова выконвае і перавыконвае свае пляны. Так па БССР перавыканалі заданьне за 9 месяцаў—скураная, суконная, паліграфічная і інш. галіны прамысловасьці. Далей на ілюстрацыйным матар'яле паказаць, што па раду прадпрыемстваў на аснове ажыцьцяўленьня ўказаньняў тав. Сталіна прарывы і адставаньне ліквідуюцца. У 3-м кв. амаль па ўсім галінам прамысловасьці, як па СССР, так і БССР адзначаецца нарастаньне тэмпаў выкананьня плянаў. Так уся прамысловасьць, пляніруемая ВСНГ СССР дала ў жніўні прырост аб'ёму вытворчасьці супроць ліпеня на 11 проц. (група „А" 8 проц., група „Б"—16,5 проц.). Маецца зрух у вугальнай прамысловасьці. Донбас даваў у верасьні 1931 г. штодзённа 108,3 тыс. тон вуглю супроць 77,3 тысяч тон у верасьні 1930 году: у кастрычніку няўхільна падвышая здабычу Данбас набліжаецца ўжо да выкананьня сустрэчных заданьняў. Раскачваецца і чорная мэталюргія. Па машына-будаўніцтву ў жніўні даўшы прырост прадукцыі супроць ліпеня на 9,2 проц. Прамысловасьць ВСНГБ дала ў жніўні прырост прадукцыі супроць ліпеня на 12 проц. і ў верасьні супроць жніўня 5,4 проц. Удзельная вага 3-га кв. у выпушчанай за 9 месяцаў прамысловасьцю ВСНГ БССР прадукцыі складае 39,6 проп. у той час, як 2-гі квартал толькі 30,9 проц., а першы кв.—29,5 проц.; мэталяапрацоўчая прамысловасьць БССР дала ў 3-м кв. на 28,2 проц. больш прадукцыі супроць 2-га кварталу.

У гэтай частцы гутаркі рэкамэндуецца таксама разабраць з слухачамі дынаміку выкананьня пляна свайго прадпрыемства і высьвятліць як праводзяцца ўказаньні тав. Сталіна і як гэта адбылося на паляпшэньні работы прадпрыемства; параўнаць дынаміку выкананьня пляну данага прадпрыемства і адпаведных прадпрыемстваў той жа галіны, або аб'яднаньняў.

На аснове разабранага матар'ялу прывесьці слухачоў да вываду:

1) Што там, дзе па бальшавіцку ўзяліся за ажыцьцяўленьне 6-ці ўмоў тав. Сталіна—там пасьпяхова ідзе ліквідацыя адставаньня.

2) Што гэта нашчэнт разьбівае разважаньне апартуністых і партыйных абываценяў аб нерэальнасьці і непасільнасьці нашых плянаў.

3) Што ў нас маюцца ўсе магчымасьці для рэалізцыі пляну і справа толькі ў нашым уменьні і жаданьні скарыстаць гэтыя магчымасьці на аснове неадкладнага ажыцьцяўленьня ўказаньняў тав. Сталіна.

Наступны разьдзел гутаркі кіраўнік пачынае з указаньня на тое што поўнае выкананьне пляну 1931 году ня толькі магчыма, але

і дыктуецца неабходнасьцю стварэньня належнай матар'яльна-тэхнічнай базы для разгортваньня далейшых бальшавіцкіх тэмпаў у 4-м заключным годзе пяцігодкі. Мабілізаваць увагу слухачоў на тое, што 4-ты квартал рашае лёс 3-га году пяцігодкі. У гэтым квартале павінны быць поўнасьцю ліквідаваны прарывы і адставаньне па ўсіх важнейшых вучастках социялістычнага будаўніцтва. З гэтага выходзіць прыняты урадам па БССР плян на 4-ты квартал.

Праграмай 4-га квартала намечаны выпуск прадукцыі прамысловасьці ВСНГБ на 132 млн. руб. (група „А"—25,4 млн. руб., група „Б"—106,7 млн. руб.) прамысловасьць НКСнаба на 26,1 млн. руб. і промкоопэрацыя на 48 млн. руб. Капіталаукладаньні намечаны ў разьмеры 1,5 млн. руб. у прамысловасьць ВСНГБ і 3,5 млн. руб. у прамысловасьць НКСнаба. Плянавыя заданьні па якасным паказчыкам у звязку з значным недавыкананьнем у мінулым квартале, у 4-м квартале значна вышэй наметак гадавога пляну. Зніжэньня сабекошту запраэктавана ў разьмеры 10,1 проц. па прамысловасьці ВСНГБ і 8,7 проц. па прамысловасьці НКСнаба. Падвышэньне вытворчасьці працы адпаведна на 48,2 і 40 $_0|^0$ проц. У галіне сеьскай гаспадркі плянам 4-га квартала намечана фарсіраванае сканчэньне сельска-гаспадарчага будаўніцтва і значнае заданьне па разгортваньню жывёлагадоўлі. У 4-м квартале па калгаснаму сэктару павінна быць скончана будаўніцтва 35 тыс. сьвінамейсц, 50 карова-мейсц. 3.400 мейсц для цялят, 3 інкубатарных станцый, 3 масла-вытворчасьцяў, 2 бульба-апрацоўчых заводаў, 10 цагэльных заводаў, 133 рамонтных майстэрань, і рад іншых аб'ектаў социяльна-бытавога і гаспадарчага характару. Значная праграма намечана па будаўніцтву ў саўгасах. Камплектаваньне стада намечана ў 4-м квартале па Сьвінакалгасцэнтру ў разьмеры 35 тыс. свінаматк і 50 тыс. парасят. Па малакокалгасцэнтру—14 тыс. галоў дарослай жывёлы і 92,5—цялят.

Значныя патрабаваньні плян 4-га кв. прад'яўляе ў галіне будаўніцтва. У 4-м кв. павінны быць абавязкова скончаны пабудовай і пушчаны ў эксплёатацыю цэлы рад аб'ектаў прамысловага, камунальна-бытавога і іншага характару будаўніцтва.

Гэта накладае таксама вельмі адказныя задачы на вытворчасьць будаматар'ялаў—цагэльную, шкляную, дрэваапрацоўчую, цьвікавую і інш. галіны прамысловасьці. Цьвікавыя заводы БССР („Інтэрнацыянал", „Чырвоны Кастрычнік") павінны даць ня менш 5.200 тон цьвікоў, для чаго перад імі пастаўлена ўрадам задача арганізаваць вытворчасьць у 3 змены. Перад цагэльнай прамысловасьцю пастаўлена баявая задача даць у 4-м квартале ня менш

40 тыс. штук цэглы сырцу, як неабходную базу разгортваньня будаўніцтва ў 1932 годзе.

Далей кіраўнік пераходзіць да характарыстыкі вузлавых гаспадарчых задач, пастаўленых партыяй і ўрадам у пляне 4-га квартлу.

1) Рашаючае паляпшэньне апальнага балянсу. Калі па ўсяму Саюзу партыя і рабочая кляса прыкладае значныя сілы да вырашэньня вугольнай праблемы (мэханізацыя Донбаса, фарсіраванае разгортваньне 2-ой вугальнай базы у Кузбасе), то ва ўмовах БССР, асаблівую ўвагу патрабуе поўнае выкананьне гадавога пляну нарыхтоўкі і вывазцы дроў (у 4-м кварталедля для гэтага неабходна нарыхтаваць 3.838 куб. мэтр. і вывесьці 3.446 куб. мэтраў дроў) і вывазка на мейсца спажываньня ня менш 160 тон торпу.

Поўнае выкананьне фінпляну, дзе за мінулую частку года мы мелі па БССР значныя прарывы, асабліва па лініі мабілізацыі сродкаў насельніцтва і накапленьня сродкаў у прамысловасьці і адпаведнага сэктару сельскай гаспадаркі. Выкананьне фінпляну патрабуе рашучай барацьбы за ўнядрэньне гаспадарчага разрахунку, зьніжэньня сабекошту і падвышэньня якасьці прадукцыі і вытворчасьці працы.

На аснове ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў тав. Сталіна жорсткі кантроль рублём і суровая фінансавая дысцыпліна, хуткага ўхіленьня ўсялякіх скрыўленьняў у зьвязку з пераходам на новы парадак крэдытаваньня.

3. Рашучае паляпшэньне работы транспарту і асабліва чыгуначнага, што зьяўляецца найбольш вузкім мейсцам зараз у народнай гаспадарцы. На аснове ажыцьцяўленьня 6-ці ўмоў т. Сталіна транспартныя рабочыя павінна максымальна мабілізаць усе унутраныя рэсурсы і забясьпечыць поўнае выкананьне плянаў асеньня-зімовых паравозак.

4. Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Патрэбна асабліва растлумачыць блытаніну і памылкі ў гэтым пытаньні, а таксама ў пытаньнях далейшай калектывізацыі па БССР на аснове крытыкі дадзенай у Ц. О. партыі "Правде". Выдзяліць пытаньне організацыі правільнага разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасах, як цэнтральная задача ў справе гасп. організацыйнага ўмацаваньня калгасаў. Патрэбна таксама мабілізаваць слухачоў на задачы выкананьня праграмы па разгортваньню жывёлагадоўлі і зяблевай успашкі і мерапрыемстваў па падняцьцю ўраджайнасьці.

5. Перабудова работы коопэрацыі і паляпшэньне рабочага снабжэньня. Указаць, што пляны на 4-ты квартал па БССР намечаны ў 6,1 млн. руб. капітальных укладаньняў у коопэрацыю

1685

1964 г.

(з іх больш паловы ў прыгародныя гаспадаркі) і вызначаны аб'ём работы ў галіне разгортваньня тавараздвароту ў разьмеры да 250 млн. руб., з іх звыш 140 млн. руб. па промтаварнаму снабжэньню. Мабілізаваць увагу слухачоў вакол указаньняў ЦК УсеКП(б), што пытаньне перабудовы спажывецкай коопэрацыі і паляпшэньня рабочага снабжэньня павінны стаць сьцержнявымі у рабоце парт-організацыі побач з пытаньнямі індустрыялізацыі. Выкрыць перад слухачамі сутнасьць буржуазных тэндэнцый, паасобных гаспадарнікаў і коопэратараў у пытаньнях разгортваньня савецкага гандлю, гаспадарчага разрахунку, растлумачыць прынцыпыяльную розьніцу паміж савецкім гандлем і буржуазным „гандлерствам“, высьвятліць ворожую пролетарыяту сутнасьць тэндэнцый да чыстага гандлю „гандлю для гандлю“ і простага тавараабмену а таксама шкоднасьць „левацкіх“ тэндэнцый пераходу зараз-жада прастога разьмеркаваньня.

6. Ударнае выкананьне плянаў загатовак, важнейшая чарговая задача ў барацьбе за выкананьне пляну 4-га кварталу і паляпшэньня рабочага снабжэньня. Мабілізаваўшы увагу слухачоў на гэту задачу кіраўнік павінен выкрыць кулацкую сутнасьць апартуністычнай практыкі і буржуазных тэндэнцый, што праявіліся ў гэтым пытаньні у радзе гаспадарчых організацый (Саюзцукар, Белсавгас і інш.), скарыстаўшы адпаведныя пастановы ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б, а таксама артыкулы, апублікаваныя у „Правде“ і „зьвязьдзе“. Мабілізаваць слухачоў на рашучую барацьбу з спажывецкімі, месьніцкімі настроямі, якія адлюстроўваюць тактыку кулака, накіраваную на зрыў загатовак.

У заключэньні патрэбна прывесьці слухачоў да вываду, што складаныя задачы, пастаўленыя плянам 4-га кварталу патрабуюць мабілізацыі ўсіх сіл партыі і рабочай клясы на іх ажыцьцяўленьне і неаслабнай барацьбы з перараждзенцамі—правымі і „левымі“ апартуністымі, носьбітамі буржуазных тэндэнцый.

У якасьці практычнай работы пажадана правядзеньне сіламі слухачоў праверкі ходу выкананьня прамфінпляну 4-га кварталу свайго прадпрыемства (савгасу, калгасу) і абгаварыць практычныя мерапрыемствы па рэалізацыі паказаных вышэй вузлавых гаспадарчых задач.

**Літэратура:**

1. Передавая „Правды“ ад 28/X-31 г.
2. Прамова тав. Шаранговіча на Усебеларускай нарадзе раёнаых газэт („Зьвязда“ 28/X-31 г.).

Дадатковая: „Большавік“ № 15—перадавая—Чарговыя задачы гаспадарчага будаўніцтва.

Рэдкалегія: Модэль (Ад. рэдактар), Улазаў, Гурэвіч.

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭС БССР Галоўлітбел № 2700 Тыраж 1000 экз.